ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №82 (4440) СЕРАДА, 12 кастрычніка 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## НГ-іНФАРМ

# Весткі з Гомеля

### ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ

**1 кастрычніка сярэдняя школа №28 з музычным ухілам справіла залаты юбілей. За 50 гадоў тут атрымалі сярэднюю адукацыю 2734 вучні. Залатыя медалі былі ўручаны 142 выпускнікам, сярэбраныя — 111.**

Сёння сярэднюю школу наведваюць 834 вучні. Ужо створаны 2 профільныя і спартыўны класы. У школе дзейнічаюць лялечны, танцавальны, харавы калектывы, духавы аркестр, ансамбль цымбалістаў, аркестр народных інструментаў.

### ГУЧЫЦЬ РОДНАЕ СЛОВА

**Веданне беларускай мовы — абавязковае патрабаванне пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Нацыянальная мова павінна гучаць у аўдыторыях універсітэтаў і інстытутаў.**

Так лічыць старшыня гарадской Рады таварыства беларускай мовы В.А.Башлакова. Таму наладжана цікавая сустрэча сяброў арганізацыі са студэнтамі і выкладчыкамі політэхнічнага інстытута. На гэтую сустрэчу запрошаны паэты і пісьменнікі Гомеля.

### ЗАВОД ВЫПУСКАЕ РАНЦЫ

**Ранцы для школьнікаў плануе выпускаць сёлета калектыў вытворчага камерцыйнага прадпрыемства "Завод хімічных вырабаў".**

Канструктар В.В.Балоткіна разам з эксперыментальнай групай занялася распрацоўкай новай мадэлі. Ранцы будуць прывабныя і не дарагія. Днямі завадчане прыступяць да масавай вытворчасці гэтай навінкі.

### ВАНДРОЎНІЦА "ТАЛАКА"

**Маладзёжная арганізацыя "Талака" існуе з 1986 года. Яна гуртуе студэнтаў, школьнікаў, рабочых, работнікаў міліцыі.**

У жніўні старшыня "Талакі" Сяржук Вінаградаў разам з Андрусём Пуканавым, Алесем Лазечна, Вітаўтам Юрчанка арганізавалі вандроўку на Тураўшчыну. Яны запісалі на магнітную стужку 50 песень, сфатаграфавалі рэдкія ткацкія і вышываныя вырабы.

Ганна АТРОШЧАНКА.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ ДЛЯ "НГ"

# Створана Беларуская акадэмія адукацыі

**30 верасня адбыўся ўстаноўчы сход, на якім заснавана Беларуская акадэмія адукацыі.**

Арганізацыямі-заснавальнікамі выступілі Міністэрства адукацыі і навукі (міністр Стражаў В.І.), Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт (рэктар Ціханаў Л.Н.), Нацыянальны інстытут адукацыі (дырэктар Валадзько У.Ф.), Рэспубліканскі інстытут прафесійнай адукацыі (рэктар — Шкляр А.Х.), Інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі (рэктар — Жук А.І.), Нацыянальны інстытут гуманітарных навук (рэктар — Кузьмянкоў В.П.). У якасці акадэмікаў-заснавальнікаў выступілі сябры Беларускага аддзялення Міжнароднай акадэміі навук вышэйшай школы Э.М.Бабенка, рэктар Полацкага дзяржуніверсітэта; А.П.Дастанка, старшыня БелВАК; В.М.Ільін, рэктар Беларускага дзяржуніверсітэта інфарматыкі і радыётэхнікі; Я.Л.Каламінскі, загадчык кафедры БДПУ; Л.М.Ківач, рэктар Гродзенскага універсітэта; У.С.Кошалеў, загадчык кафедры БДУ; А.І.Лесніковіч, прарэктар БДУ; В.А.Сакалоў, рэктар Акадэміі фізвыхавання і спорту; М.І.Стралюк, прарэктар Беларускай політэхнічнай акадэміі; Л.А.Шамяткоў, рэктар Гомельскага універсітэта, а таксама вядомыя вучоныя і кіраўнікі устаноў адукацыі Беларусі — рэктар Беларускага універсітэта культуры Я.Д.Грыгаровіч, рэктар Брэсцкага дзяржпедінстытута В.А.Сцепановіч, дактары навук, прафесары А.І.Кочатаў, М.І.Латыш, Б.В.Пальчэўскі, Д.І.Вадзінскі, А.П.Сманцар, І.П.Філонаў і іншыя. Былі таксама запрошаны акадэмікі былой АПН СССР В.У.Івашын, М.А.Лазарук, І.Ф.Харламаў.

На ўстаноўчым сходзе прыняты часовы статут акадэміі. Тайным галасаваннем Прэзідэнтам Беларускай акадэміі адукацыі абраны міністр адукацыі і навукі, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар В.І.Стражаў, віцэ-прэзідэнтамі — доктар гістарычных навук, прафесар Л.Н.Ціханаў і доктар педагагічных навук У.Ф.Валадзько.

Галоўнымі мэтамі Беларускай акадэміі адукацыі з'яўляюцца:

кансалідацыя намаганняў навукоўцаў ВНУ і НДІ на рашэнні важнейшых праблем адукацыі, фарміраванне і выкананне імі сумесных навуковых, навукова-метадычных і навукова-арганізацыйных адукацыйных праграм і праектаў;

арганізацыя і разгортванне ў сістэме адукацыі фундаментальных даследаванняў па прыярытэтных накірунках удасканалення зместу, форм і тэхналогій навучання і выхавання, іх укараненні ў педагагічную практыку;

распрацоўка прапаноў і актыўны ўдзел у здзяйсненні новых падыходаў да стратэгій развіцця адукацыі, падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі педагагічных кадраў, падрыхтоўка рэкамендацый і садзейнічанне развіццю навучальных устаноў новага тыпу, новых форм і метадаў навучання адораных дзяцей і таленавітай моладзі на базе лепшых дасягненняў псіхолага-педагагічнай навукі, прагрэсіўных распрацовак і методык;

ажыццяўленне аналізу і абагульненне найбольш важных для сусветнай супольнасці дасягненняў навукі ў галіне адукацыі, прапаганда гэтых дасягненняў з мэтай іх эфектыўнага выкарыстання ў розных навучальных установах, а таксама іншых формах адукацыі.

Статутам прадугледжана абранне акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў з ліку вядомых вучоных у галіне адукацыі, творча працуючых педагогаў-даследчыкаў, настаўнікаў, арганізатараў адукацыі. У саставе акадэміі прадугледжваецца таксама калектыўнае членства ўстаноў адукацыі.

Аляксандр ЖУК,
галоўны вучоны сакратар Беларускай акадэміі адукацыі.

## НГ-іНФАРМ



# Дзень адкрытых дзвярэй

**Дзень адкрытых дзвярэй ужо ў шаснаццаты раз прайшоў у Мінскім абласным цэнтры тэхнічнай творчасці моладзі, які знаходзіцца ў пасёлку Калодзішчы. Сотні дзяцей, пераважна з мясцовай сярэдняй школы, у гэты сонечны дзень прыйшлі пазнаёміцца з дзейнасцю шматлікіх гурткоў. А іх тут 45.**

Пасля ўрачыстай часткі з нагоды адкрыцця адбылося паказальнае выступленне гуртоўцаў другога года навучання і іх кіраўнікоў. На мясцовым стадыёне выступілі картынгісты, авіямадэлісты і аўтамадэлісты.

Гучала музыка, працавала кінаперасоўка, вучні ахвотна запісваліся ў гурткі па інтарэсах.

— Увогуле дзейнасць нашага цэнтра я ацэньваю станоўча: папрацавалі нябдага. Галоўным дасягненнем мінулага навучальнага года лічу ўдзел нашых выхаванцаў на 1-й рэспубліканскай спарталімпіядзе школьнікаў па спартыўна-тэхнічных відах спорту, дзе Мінская вобласць галоўным прадстаўніком якой і быў наш цэнтр, заняла першае месца. Заслуга ў гэтым нашых работнікаў Рустама Якімавіча Сіндарава (авіямадэльны гурток), Уладзіміра Антонавіча Даміно (аўтамадэльны) і Анатоля Міхайлавіча Харытонава (суднамадэльны).

Да гэтых слоў дырэктара цэнтра Алены Васільеўны Клімушкі я дадаў бы, што і адміністрацыя праяўляе добрыя арганізатарскія здольнасці па заснаванні новых гурткоў, а таксама цесная каардынацыі работы з іншымі такімі ж установамі па Мінскай вобласці, дапамагае ім як у метадычных пытаннях, так і практычна.

Эдуард ЭЛЬКСІН.

НА ЗДЫМКУ: добры настрой у картынгістаў.

Фота аўтара.



ШТО КАМУ БАЛІЦЬ

# ВОСЬ ТАКІ ПАДАРУНАК...

Свята настаўніка! Ніколі яно не было такім горкім. У бальніцы сумна і пуста. Амаль усе хворыя на выхадныя дні пайшлі дамоў. Засталіся толькі "цяжкія".

На бальнічнай тумбачцы ў бутэльцы стаіць ружа. Яе прынеслі былыя калегі па школе. Вось гляджу на гэтую пяшчотную кветку і плачу. Плачу не ад хваробы, горка і балюча на душы пасля таго, што здарылася са мной.

Амаль 35 гадоў аддала я школе, а цяпер мяне выкінулі з яе, выкінулі бязлітасна, як непатрэбную рэч.

29 жніўня гэтага года я павінна была святкаваць 55-гадовы юбілей. Праўда, збіралася яшчэ трошкі папрацаваць, дырэкцыя была не супраць. За тыдзень да дня нараджэння раптам пачула ад калег (я яшчэ не выйшла на работу), што ў школу прывезлі загад райана аб звальненні мяне з 30 жніўня, г.з. на другі дзень пасля дня нараджэння. Вось такое віншаванне з юбілеем!

Пайшла ў райана. Як жа так? Я ж яшчэ і пенсію не паспела афарміць і 55 яшчэ не споўнілася нават? На мяне спачувальна паглядзелі і развялі рукамі. Маўляў, трэба ўладкаваць на работу маладых спецыялістаў, а ўсіх пенсіянераў будуць звальняць. Але ж я яшчэ не пенсіянерка пакуль! Гэта нікога не хвалюе. Загадчык райана сказаў: "Хопіць нам эксплуатаваць пенсіянераў, трэба даць ім адпачыць!" Які "кранаючы" клопат!

Настаўнік, аддаўшы ўсё жыццё школе, нават не заслужыў, каб яго папярэдзілі раней, далі магчымасць афарміць пенсію, хоць бы пагаварылі са мной перад выданнем загада.

Усё гэта вельмі пакрыўдзіла мяне. На другі дзень я захварэла (у мяне хворае сэрца). З кожным днём становіцца ўсё горш. І ў дзень нараджэння я вымушана была атрымаць лісток непрацаздольнасці, каб хоць трохі адцягнуць тэрмін звальнення. Так мне параілі.

Кожны дзень (амаль 2 тыдні), ледзь перастаўляючы ногі, хадзіла ў райана, каб хоць дакументы сабраць на афармленне пенсіі.

Цяпер я ў бальніцы. Урачы старанна лечаць маё сэрца. А як вылечыць душу, якая баліць ад крыўды?

На маім месцы працуе маладая настаўніца, але і я пакуль лічуся членам калектыву і ў той жа час я ўжо ніхто. Пенсіі яшчэ няма, а ў райана чакаюць, калі я папраўлюся, каб хутчэй выдаць новы загад і канчаткова пазбавіцца ад мяне.

Калегі спачуваюць, бо многіх можа напаткаць такі ж лёс ужо хутка. Я ж стараюся прывыкнуць да думкі, што трэба змірыцца, бо ніхто і нішто мне ўжо не дапаможа. "Патрэбен, калі патрэбен і пакуль патрэбен".

Але боль і крыўда не адыходзяць, шчыміць сэрца. Па начах сняцца мае вучні, а на справе баюся іх убачыць, не ведаю, што казаць, як растлумачыць. Сорамна, быццам у чым правінілася і мяне за гэта выставілі са школы.

Я разумею, што маладых спецыялістаў трэба ўладкоўваць, але рабіць гэта трэба так, каб не крыўдзіць тых, хто заслужыў права хоць на добрыя словы.

Нікому не пажадаю таго, што перажываю я. Крыўдна, балюча, цяжка!

Ларыса Міхайлаўна ЖАБЫКА,
былая настаўніца Казіміраўскай няпоўнай сярэдняй школы Гродзенскага раёна (працавала настаўніцай пачатковых класаў).

# АТЫ-БАТЫ, ІДУЦЬ АСПІРАНТЫ Ў САЛДАТЫ

У былым Савецкім Саюзе беларуская навука па праву лічылася адной з самых перадавых, а Мінск — прызнаным навуковым цэнтрам. На жаль, зараз гэта далёка не так. Прычын шмат. Спынюся толькі на адной — кадравай. Вучоны люд старэе, гэта натуральна, але на змену яму не ідзе моладзь, ды і сталыя вучоныя паціхеньку ад'язджаюць як у блізкае, так і далёкае замежжа, а многія маладыя кандыдаты навук ідуць у камерцыйныя структуры, дзе зарабляюць намнога больш, чым у навуцы.

У Беларусі ў 1991 годзе было паспяхова абаронена 185 доктарскіх дысертацый, праз год гэтая лічба знізілася да 160, а ў 1993 годзе склала 110. Ну, а сёлета знізіцца за адзнаку ніжэй ста. Аналагічная карціна і па колькасці кандыдацкіх: адпаведна 740, 600 і 500. У 1994 годзе абароненых кандыдацкіх дысертацый будзе яшчэ менш. Да таго ж, сярэдні ўзрост беларускага доктара навук перавысіў 55 гадоў, а кандыдата навук — 45. У працэнтных адносінах больш як 80 працэнтаў дактароў навук з'яўляюцца людзьмі пенсійнага і перадпенсійнага ўзросту.

Прыток жа маладых людзей у навуку, якая аплочваецца далёка не па заслугах, на жаль, мае ўстойлівую тэндэнцыю да памяншэння. Вось лічбы. У 1991 годзе ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі было прынята больш як 30 тысяч студэнтаў, а ў 1994 годзе на 10 тысяч менш. Што датычыцца аспірантуры, то жадаючых вучыцца таксама становіцца ўсё менш і менш, і цяпер конкурсу ў аспірантуру практычна няма. Такім чынам, улівання моладзі ў навуку не адбываецца, і хутка мы пачнём пажынаць плады такой кадравай палітыкі. А калі ўлічыць, што фінансаванне саміх навуковых даследаванняў, асабліва фундаментальных, далёкае ад патрабаванняў сённяшняга дня, то перспектывы развіцця нацыянальнай навукі не радасныя.

Адным са спосабаў прытоку моладзі ў вучобу праз сістэму аспірантуры я бачу ў адтэрміноўцы будучых аспірантаў вочнай формы навучання ад службы ў арміі. Такую адтэрміноўку маюць студэнты стацыянара. Павінны яе мець і тыя студэнты, якія паводле рашэння вучоных рад ВНУ будуць рэкамендаваны ў аспірантуру. Такіх будзе не вельмі многа, але ж гэта будучыня нацыянальнай навукі, і ім павінны быць зроблены выключэнні. Пасля паспяховага заканчэння аспірантуры і абароны дысертацыі свой грамадзянскі абавязак маладыя вучоныя змогуць аддаць Радзіме не як простыя салдаты (іх і зараз няма куды дзяваць у арміі!), а як спецыялісты высокага класа. Пасля традыцыйнай "вучэбкі" іх можна выкарыстоўваць як ваенных юрыстаў, эканамістаў, механікаў, будаўнікоў, хімікаў і г. д. Хіба нашай сённяшняй арміі не патрэбны адукаваныя людзі? А год такой службы можна разглядаць як варыянт альтэрнатыўнай службы ў арміі. У прынцыпе, можна і наогул вызваляць ад службы ў арміі тых аспірантаў, якія змогуць за час вучобы ў аспірантуры паспяхова абараніць дысертацыі. Думаю, што гэта далёка не лёгкая праца. Да таго ж, у выніку ад гэтага выйграе навука, а значыць і Рэспубліка таксама.

Можна разгледзець і іншыя варыянты. Галоўнае, каб моладзь не страціла жадання ўдасканальвацца ў навуцы. Армія ж, дзе сярод 18 — 19-гадовых маладых прызыўнікоў будзе некалькі старшагодак з вышэйшай адукацыяй на працягу года службы, на вельмі працяглы час адаб'е ахвоту ў многіх працягваць удасканальвацца ў навуцы. І ўсякія размовы пра тое, што ў нашай арміі ідзе барацьба з дзедаўшчынай, тут проста не да месца.

І ў заключэнне. Калі нельга аспірантам зрабіць адтэрміноўку ад службы ў войску, то такую адтэрміноўку трэба адмяніць усім без выключэння студэнтам стацыянара. У арміі павінны служыць людзі аднаго ўзросту, каб не было падзелу на "белых" і "чорных". Але гэта тэма ўжо іншай размовы.

Альберт БАГДАСАРАЎ,
прафесар.

# Зноў пра "ліпу"

Прынята лічыць, што зрабіўшы навуковыя ці публіцыстычныя заключэнні, сур'ёзны даследчык зыходзіць з бясспрэчных, правераных фактаў. Інакш гэта ставіць пад сумненне наступныя вывады. У "Настаўніцкай газеце" (№ 77 ад 24 верасня 1994 года) апублікаваны артыкул доктара педагагічных навук У. Ф. Валадзько "Зноў "ліпа"?", зыходны пункт якога сфармуляваны так: у Пінску "гарана абавязвае ставіць тройку там, дзе заслужана цвёрдая двойка".

Нічога падобнага на самай справе не было і няма. Маем права патрабаваць у паважанага вучонага канкрэтных доказаў: дзе, калі і якім чынам аддзел адукацыі абавязвае ставіць тройкі.

Калі і другія навуковыя вывады шаноўных вучоных - педагогаў заснаваны на падобных "фактах", то прыходзіцца толькі пашкадаваць нашу шматпакутную адукацыю.

А. КАНЁЎСКІ,
загадчык аддзела адукацыі Пінскага гарвыканкама.

# ВЕСТКІ

Як паведамілі ў Міністэрстве адукацыі, толькі адных "замежных" выкладчыкаў патрэбна ў школы Беларусі каля 700 чалавек. Прычына адна — нізкі заробак.

* * *

На ўвесь навучальны год пакінулі сем'і і свае школы каля дзесятка гродзенскіх старшакласнікаў, якія атрымалі магчымасць вучыцца ў ЗША. У асноўным гэта прадстаўнікі школ №10 і №14 абласнога цэнтра з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы.

* * *

Сярод самых "маладых" ВНУ краіны (узрост большасці студэнтаў якіх не перавышае 17 гадоў) — Беларускі тэхналагічны інстытут, Гомельскі кааператыўны інстытут і Мінскае вышэйшае ваеннае каманднае вучылішча. Сярод "старычкоў" — Беларуская акадэмія мастацтваў і Акадэмія міліцыі, асноўны ўзрост студэнтаў у якіх 22 і 23 гады адпаведна.

* * *

У гарадскім пасёлку Парычы Светлагорскага раёна адкрылася вочна-завочная школа абітурыентаў. Жадаючых паступіць у ВНУ тут рыхтуюць па трох напрамках — фізіка-матэматычнаму, хіміка-біялагічнаму і грамадска-гуманітарнаму.

* * *

У 15 дзіцячых садках Ліды арганізаваны гурткі па вывучэнні польскай мовы. У сярэдніх школах, дзе польскі не вывучаецца як прадмет, дзейнічаюць гурткі і факультатывы. А ў 13 школах раёна польская мова ўведзена для вывучэння.

* * *

Агульны стан няўпэўненасці ў заўтрашнім дні негатыўна адбіваецца і на падрастаючым пакаленні. Як паказала апытанне, праведзенае сацыялагічнай групай Брэсцкага педінстытута, 44 працэнты брэсцкіх падлеткаў не бачаць сябе карыснымі грамадству.

* * *

Па ўзроўні злачыннасці непаўналетніх у краінах СНД Беларусь апераджае Украіну і Казахстан і займае другое месца пасля Расіі.

Міхась АНІСЕНКА.

ЗА КАМЕНТАРАМ — ДА ДЫРЭКТАРА

### ВЫБРАЛІ САМЫХ ЗДОЛЬНЫХ

**26 выпускнікоў рэальных класаў шэрагу мінскіх школ сталі сёлета навучэнцамі сталічнага ПТВ №13 лёгкай прамысловасці.**

— А жадаючых паступіць у нашу ўстанову было ў два разы болей, — каменціруе падзею дырэктар Тамара Аляксандраўна Раеўская. — Толькі ўступныя экзамены па тэорыі і практыцы швейнай справы дапамаглі нам выбраць самых здольных.

Для новай групы, сфарміраванай з былых рэальнікаў, мы загадзя падрыхтавалі навучальныя планы і праграмы. Улічваючы, што гэтыя падлеткі ўжо атрымалі першапачатковую швейную падрыхтоўку, у новай дакументацыі атсутнічае трэніровачны этап.

Таму прафесію закройшчык, кравец лёгкага адзення навучэнцы атрымаюць у скарочаны тэрмін, за паўтара года.

За час прыёму ў вучылішча і за месяц вучобы гэтых падлеткаў вызначыліся некаторыя высновы. Так, у рэальных класах швейнага накірунку мінскіх школ, на жаль, атсутнічае адзіная праграма навучання, слабая матэрыяльна-тэхнічная база, якая не мае сучаснага швейнага абсталявання.

Гэта, безумоўна, негатыўна адбіваецца на ведах, якія зусім не адпавядаюць прысвоенаму большасці рэальнікаў аж трэцяга кваліфікацыйнага разраду.

Але патрэбнасць у навучанні рэальнага накірунку відавочная, асабліва ў вырашэнні праблемы прафесійнай арыентацыі моладзі. Нашы новыя навучэнцы не выпадковыя ў вучылішчы, выбралі прафесію швейніка ўсвядомлена.

### НОВЫ СТАТУС ВУЧЫЛІШЧА

**Мінскае вышэйшае прафесійнае вучылішча лёгкай прамысловасці — так стала звацца былое ПТВ №43.**

— Новы статус установа атрымала пасля двух гадоў работы ў эксперыментальным рэжыме, — расказвае яе дырэктар Пётр Іосіфавіч Ясюкевіч.

Пачалі вучобу на другой ступені навучання 30 лепшых навучэнцаў, якія паспяхова правучыліся ў вучылішчы два гады і ўжо набылі рабочую прафесію. А праз год і дзевяць месяцаў яны стануць тэхнікамі, тэхнолагамі, арганізатарамі вытворчасці. Такія кадры вельмі патрэбны нашым базавым прадпрыемствам — вытворчаму абутковаму аб'яднанню "Прамень" і скургалантарэйнай фабрыцы. Таму ўжо з будучага навучальнага года будзем фарміраваць на другую ступень дзве навучэнскія групы.

Да прысваення новага статусу мы падрыхтаваліся ўсебакова. Выкладчыкі з дапамогай калектыву Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі і па ўзгадненні з базавікамі стварылі дванаццаць навучальных праграм для двухступеньчатай падрыхтоўкі ў вучылішчы, набываем неабходнае лабараторнае абсталяванне, папаўняем педагагічны калектыў новымі кадрамі.

Пры выкладанні некаторых спецпрадметаў, як электратэхніка, часова будзем выкарыстоўваць базу і кваліфікаваных спецыялістаў Мінскага тэхнікума лёгкай прамысловасці. Ужо заключаны дагавор аб супрацоўніцтве ў гэтым накірунку нашай работы.

Інтэрв'ю ўзяла
Ала КЛЮЙКО.

НАВІНЫ З ЭКАНАМІЧНАГА УНІВЕРСІТЭТА

# ПРЫЕМНЫ СЮРПРЫЗ

Выкладчыкаў і супрацоўнікаў універсітэта, якія вярнуліся пасля летняга адпачынку на работу, чакаў прыемны сюрпрыз.

Рэктарат прыняў рашэнне аказаць грашовую дапамогу ў памеры месячнага акладу, а пачынаючы з верасня, за кошт небюджэтных сродкаў увесці штомесячную 50-працэнтную надбаўку да асноўнага заробку ўсім выкладчыкам і супрацоўнікам.

Прынята таксама рашэнне аб кампенсацыйных дапамогах студэнтам у сувязі з свабоднымі цэнамі на тавары і паслугі.

# КНІГІ З ГЕРМАНІІ

У фонд бібліятэкі паступіла некалькі соцень новых кніг германскіх выдавецтваў. Яны атрыманы ў рамках гуманітарнай кніжнай праграмы федэратыўнага міністэрства па адукацыі і навуцы ФРГ. Бібліятэцы нашага універсітэта выдзелена літаратура на 50 тысяч нямецкіх марак.

Выкладчыкі універсітэта разам з супрацоўнікамі бібліятэкі ў канцы мінулага года склалі заяўкі на літаратуру па тэматычных планах больш трохсот нямецкіх выдавецтваў. У асноўным гэта слоўнікі, моўныя падручнікі, эканамічная літаратура, альбомы з відамі гарадоў і краін свету, геаграфічныя атласы, аўдыё- і відэакасеты вучэбнага прызначэння як на нямецкай, так і на мовах іншых еўрапейскіх краін, і нават некалькі кніг, выдадзеных у Германіі на рускай мове.

Безумоўна, атрыманыя кнігі істотна дапамогуць студэнтам і выкладчыкам лепш засвоіць нямецкую мову, атрымаць звесткі аб сучаснай эканоміцы, іншых баках жыцця ФРГ, і, зразумела, будуць садзейнічаць супрацоўніцтву і ўстанаўленню трывалых кантактаў паміж нашымі народамі.

Бібліятэка выслала некалькі кніг у Германію па запыту бібліятэкі Гамбургскага інстытута Эканамічных Даследаванняў.

Рэалізацыя Гуманітарнай кніжнай праграмы ажыццяўляецца Нямецкім бібліятэчным інстытутам і каардынуецца персанальна Барбарай Шлейхаген і Хербертам Парцшам, якім мы асабліва ўдзячны і спадзяемся на далейшыя ўзаемавыгадныя сувязі.

# У РАМКАХ ПРАГРАМЫ ДАПАМОГІ

Добрае супрацоўніцтва наладжана вышэйшай школай кіравання і бізнесу Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта і Нямецкай Акадэміяй менеджменту Ніжняй Саксоніі г.Целле. Партнёры ў межах праграмы дапамогі міністэрства замежных спраў Германіі другі год праводзяць вучобу і стажыроўку слухачоў Вышэйшай школы кіравання і бізнесу па актуальных праблемах рынычнай эканомікі. Навучанне ўключае правядзенне двухтыднёвых семінараў спецыялістамі Германіі ў Мінску, трохтыднёвы трэнінг у г.Целле па менеджменту і двух-трохмесячную вытворчую практыку для 7—10 лепшых стажораў на фермах Германіі.

Практыканты павінны будуць напісаць і абараніць дыпломны праект у выглядзе бізнес-плана па сумеснай дзейнасці прадпрыемстваў. Слухачам, якія зацікаўлены ў тым, каб пасля заканчэння вышэйшай школы кіравання і бізнесу адкрыць сваю справу, будзе дадзена магчымасць працаваць па раней узгодненых паміж бакамі "практычных праектах". Гэты праект будзе курыравацца дацэнтамі абодвух навучальных устаноў.

Для ўдзелу ў такой стажыроўцы слухачы павінны добра валодаць нямецкай мовай.

Васіль ПРАТАСЕНЯ,
памочнік рэктара БДЭУ.

ПАДЗЯЛЮСЯ З ВАМІ

# НА ШТУРМ ІДУЦЬ УСЕ,

## або БЕЗ ЧАГО НЕМАГЧЫМА ПЕДАГАГІЧНАЕ МАЙСТЭРСТВА

**Калектыў настаўнікаў і вучняў школы №14 Гомеля на працягу трох год працуе над тэмай "Удасканаленне навучальнага працэсу ў школе на аснове дыягностыкі".**

Першым крокам у даследаванні на 1991-92 навучальны год была тэма "Рэалізацыя ідэй дэмакратызацыі праз педагагічнае супрацоўніцтва і педагагічную дыягностыку". Другім (на працягу таго ж года) — тэма "Павышэнне якасці навучальна-выхаваўчага працэсу шляхам укаранення ў практыку актыўных форм урока, удасканаленне сістэмы навучання і выхавання".

На працягу наступнага года даследаванне вялося па тэме "Дыягностыка ступені сфарміраванасці ў вучняў інтэлектуальных уменняў ва ўмовах станаўлення іх разумовай самастойнасці".

Сістэматычна праводзілася і стварэнне сітуацый крытычнай самаацэнкі ў педкалектыве на аснове параўнальных якасных паказчыкаў у рабоце настаўнікаў.

У мінулым навучальным годзе калектыў даследаваў чарговую па важнасці тэму "Стымуляванне педагагічнай творчасці як фактара ўдасканалення навучальнага працэсу ў школе".

Такая работа ў школе праводзіцца кафедрай педагогікі і псіхалогіі абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў пад кіраўніцтвам доктара педагагічных навук, прафесара М.В.Кухарава і кандыдата педагагічных навук В.С.Рашэцькі.

У фарміраванні настаўнікаў-даследчыкаў, як сведчыць назапашаны вопыт, вялікую ролю адыгрываюць навукова-практычныя методыкі, якія арыентуюць педагогаў на дыягностыку пазнавальных інтарэсаў і разумовай самастойнасці вучняў.

Як жа вызначаецца сфарміраванасць педагога-майстра? Натуральна, па паказчыках паспяховай дзейнасці вучняў. Прыкладныя якасныя крытэрыі мы вызначаем па рэкамендацыях, якія дадзены ў час правядзення лекцый і практычных заняткаў.

Да такіх крытэрыяў адносяцца наступныя:

1. Колькасць вучняў, навучанне якіх вядзецца на ўзроўні "добра" і "выдатна" (у параўнанні са здабыткамі калег).

2. Удзел вучняў у алімпіядах, конкурсах.

3. Колькасць вучняў, якія вучацца ў меру сваіх магчымасцяў.

4. Дынаміка паспяховасці вучняў па гадавых перыядах.

5. Прафесійныя якасці педагога, яго цікавасць да педагагічнай прафесіі і г.д.

Усяго такіх паказчыкаў адзінаццаць. Усе яны выкладзены ў кнізе М.В.Кухарава "Педагог-майстар, педагог-даследчык".

Кіраўніцтва школы ў асобе яе кіраўніка Надзеі Кунцэвіч і намесніка дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце Раісы Поўжык, сумесна з кафедрай педагогікі і псіхалогіі, накіроўвае работу педагагічнага калектыву на авалоданне кожным метадам дыягностыкі.

Тройчы на працягу года з настаўнікамі праводзяцца тэарэтычныя заняткі, на якіх даецца арыентацыя на значэнне праблемы педагагічнага аналізу як асновы педагагічнай творчасці, а затым — і практычнай (адкрытыя ўрокі з наступным паглыбленым аналізам).

Мы пераканаліся, што без уліку ўсіх фактараў фарміравання пазнавальных інтарэсаў настаўніку вельмі цяжка дабіцца поспеху ў сваёй працы.

Вялікую дапамогу ў правядзенні аналізу ўрокаў аказвае непасрэдна прафесар Кухараў, які паказвае асабісты ўзор такога аналізу і тым самым аблягчае арыенціроўку настаўніку.

У сітуацыі, калі настаўнікі авалодалі ўсімі метадамі аналізу сваёй дзейнасці, яны пераходзяць да практычных заняткаў метадам "мазгавога штурму", які з'яўляецца актывізуючым фактарам педагагічнай творчасці. Да мазгавога штурму рыхтуецца кожны настаўнік, як і кожнае метадычнае аб'яднанне. Прыўрочаныя да гэтых заняткаў, як правіла, вызначаюцца тры групы пытанняў, звязаных з выяўленнем індывідуальнасці настаўніка, яго рэфлексіяй, з псіхалагічнымі крытэрыямі ўрока.

Кожная група выдзяляе свайго спікера, які потым і падводзіць вынікі.

У прамежку паміж тэарэтычнымі і практычнымі заняткамі праходзіць анкетаванне вучняў, настаўнікаў, што дае магчымасць вызначыць напрамкі ў працы.

У выніку адпрацаванай сістэмы работы ўжо вызначыліся сапраўдныя майстры сваёй справы. Гэта М.Г.Акуліч, С.А.Гулевіч, В.М.Вінікава — настаўнікі пачатковых класаў, Г.Г.Шыханцова — настаўніца беларускай мовы і літаратуры, В.Л.Шубянок — фізікі і інш.

Пры падвядзенні вынікаў за апошнія два гады, аказалася, што вучні эксперыментальных класаў авалодалі адпаведнымі ўменнямі, яны ж вызначаюцца вышэйшымі (чым іх равеснікі) інтарэсамі да вучобы і больш трывалымі ведамі.

Штогод у чатырнаццатай школе павялічваецца колькасць выдатнікаў, медалістаў. Вось як гэта можна падаць у дынаміцы за двухгадовы перыяд: 1992 навучальны год — усяго вучняў у школе 1136, выдатнікаў — 31, медалістаў — 9; 1993 год — адпаведна, вучняў 1077, выдатнікаў —55, медалістаў —13.

Кіраўнікі метадычнага аб'яднання маюць спецыяльны бланк "Справаздача — аналіз" наведваемага ўрока, які дапамагае глыбей аналізаваць урок, а настаўніку — асэнсоўваць свае моцныя і слабейшыя месцы ў працы.

Паступова назапашаныя справаздачы даюць педагогу магчымасць перыядычна аналізаваць зробленае і на гэтай аснове ўдасканальваць сваё майстэрства.

Каб бачыць якасныя змяненні ў працы настаўніка, уведзена спецыяльная форма справаздачнасці — журнал якаснага навучання вучняў. Гэта дае магчымасць настаўніку не толькі ацэньваць уласныя вынікі работы, але і параўноўваць з вынікамі калег.

У канцы года кожны настаўнік запаўняе бланк статыстычнай справаздачы работы па выніках года, які ўказвае класы, колькасць вучняў, прадмет, колькасць вучняў, якія вучацца на "5"; "4"; "3"; "2".

Вывучэнне вопыту работы гомельскай школы №14 дае магчымасць зрабіць вывад, што на аснове фарміравання пазнавальных інтарэсаў і разумовай самастойнасці вучняў у педагагічным калектыве ствараюцца сітуацыі крытычнай самаацэнкі ўласнай дзейнасці настаўніка. Пры гэтым ён авалодвае метадам дыягностыкі, без чаго немагчыма педагагічнае майстэрства. Эксперыментальны матэрыял дапамагае любой педагагічнай сістэме будаваць сваю дзейнасць на навуковай аснове.

**Эмма САФРАНОВІЧ,**
метадыст кіруючых кадраў
Гомельскага гарадскога
метадычнага цэнтра.

СТРАТЭГІЯ АДУКАЦЫІ

# НАВУЧАННЕ ДЭМАКРАТЫІ

## ЯНО ПАВІННА ПРАНІЗВАЦЬ ПРАКТЫЧНА ЎСЕ ВЫКЛАДАЕМЫЯ Ў ШКОЛЕ ПРАДМЕТЫ

Як вядома, у ходзе сакавіцкай (1994 г.) XVIII сесіі пастаяннай канферэнцыі еўрапейскіх міністраў адукацыі ў якасці асноўнай абмяркоўвалася праблема выкарыстання адукацыі ў захаванні і ўмацаванні дэмакратычных каштоўнасцей ва ўмовах аб'яднанай Еўропы. Пытанне гэтае надзвычай актуальнае для нашай краіны, бо Беларусь нядаўна стала на шлях развіцця дэмакратыі, а дэмакратычныя традыцыі не маюць глыбокіх каранёў і традыцый у грамадстве (Гл.: У. Петухоў. Цывілізацыйны падыход. — Настаўніцкая газета, 28 мая 1994 г.). Даводзіцца канстатаваць, што каштоўнасці ранейшай афіцыйнай ідэалогіі паступова саступаюць сваё месца дэмакратычным каштоўнасцям. У гэтых умовах нацыянальная сістэма адукацыі не здолела пакуль наладзіць работу па фарміраванні ў вучняў дэмакратычнай культуры. Адбілася і адсутнасць навучальных матэрыялаў і педагагічных методык, і непадрыхтаванасць педагагічных кадраў, і нераспрацаванасць адпаведных праграм.

Хоць дэфіцыт дэмакратыі ў грамадстве не з'яўляецца вынікам толькі неэфектыўнай дзейнасці сістэмы адукацыі, яго важнейшая роля ў дэмакратызацыі жыцця відавочная.

Перад грамадствам, такім чынам, стаіць адкрытае пытанне: "Як у час вучобы ў школе забяспечыць фарміраванне новага дэмакратычнага менталітэту асобы, навыкаў жыцця ў плюралістычным дэмакратычным грамадстве?".

Каб паспрабаваць адказаць на яго, на наш погляд, будзе карысна звярнуцца да замежнага вопыту навучання дэмакратыі ў школе.

І тут неабходна адзначыць, што крах таталітарызму ў краінах Усходняй Еўропы, бітвы з апартэідам ў Паўднёвай Афрыцы, барацьба за свабодныя выбары ў шэрагу краін Лацінскай, Цэнтральнай Амерыкі і Азіі, дзе дыктатура ў недалёкім мінулым была нормай жыцця, і, вядома ж, драматычны распад Савецкага Саюза — усе гэтыя падзеі сведчаць аб усеагульным і натуральным імкненні народаў да волі і палітычнай свабоды.

Па меры таго, як новыя дэмакратычныя грамадствы спрабуюць ажыццявіць палітычнае, эканамічнае і сацыяльнае пераўладкаванне сваіх краін, пашырыць правы і свабоды сваіх грамадзян, забяспечыць іх абарону, становіцца відавочным, што поспех гэтых пачынанняў у будучым залежыць ад таго, наколькі хутка і глыбока прынцыпы і інстытуты дэмакратыі ўкараняцца ў сэрцах і розумах грамадзян. Ідэалы, якія ўзнялі народы на барацьбу супраць прыгнечання, змогуць ажыццявіцца і вытрымаць выпрабаванне часам толькі ў тым выпадку, калі людзі пазнаюць і ацэняць сэнс дэмакратыі, калі яны зразумеюць, што значыць жыць у свабодным грамадстве і якія неабходны змены ў грамадскіх інстытутах і паводзінах людзей, каб такое грамадства здолела існаваць і забяспечыць сваё працвітанне. Людзі павінны выпрацаваць у сабе такія звычкі, установкі і каштоўнасці, без якіх немгчыма само існаванне дэмакратыі, а таксама развіваць у сабе жаданне ўмацоўваць і ўдасканальваць яе. Усе разумеюць, што калі кожнае пакаленне зразумее каштоўнасці і сэнс дэмакратыі, гэтай форме кіравання будуць забяспечаны поспех і стабільнасць.

Гэта датычыцца не толькі маладых дэмакратый. Вучыць дэмакратыі гэтак жа важна і ў развітых дэмакратычных грамадствах. І гэта зразумела. Для таго ж, каб даведацца, як дэмакратыя функцыянірус, ёй неабходна навучаць, яе неабходна вывучаць. Любое грамадства, якое жадае быць свабодным, павінна дабіцца таго, каб яго грамадзяне былі добра адукаваныя ў тэорыі і практыцы дэмакратыі. Часткова такая адукацыя павінна давацца ў школах, якія могуць вучыць дзяцей не толькі ў рамках адукацыйных праграм, але і прыцягваючы іх да ўдзелу ў дзейнасці саміх школ, у розных пазашкольных мерапрыемствах. Аднак афіцыйная адукацыя не з'яўляецца адзінай крыніцай атрымання ведаў аб дэмакратыі ў свабодным грамадстве. Існуюць і іншыя крыніцы, а менавіта: курсы і практычныя семінары для дарослых, тэле- і радыёпраграмы, артыкулы ў газетах і часопісах, грамадская дзейнасць. Усё гэта таксама аказвае дапамогу грамадзянам усіх узростаў у вывучэнні дэмакратыі.

Для таго каб не сумнявацца ў палітычнай важнасці гэтай вучобы, трэба звярнуць увагу на тое, як энергічна і актыўна таталітарныя і аўтарытарныя рэжымы імкнуцца ўстанавіць кантроль над інфармацыяй, якая перадаецца школьнікам і студэнтам у навучальных установах.

Побач з гэтым, пры арганізацыі навучання дэмакратыі трэба ўлічваць, што адсутнасць таталітарнага ўрада не стварае само па сабе моцнай, стабільнай і эфектыўнай дэмакратыі. Дэмакратыя не здольна аўтаматычна навучаць людзей дэмакратычным каштоўнасцям. Таму да навучання дэмакратыі трэба падыходзіць як да вельмі сур'ёзнай і адказнай справы.

Перад педагогам можа паўстаць пытанне: "Чым адрозніваецца навучанне дэмакратыі ад ідэалагічнай апрацоўкі, якая практыкавалася пры таталітарных рэжымах?" На наш погляд, перш за ўсё, вынікамі, а менавіта: складам розуму, вобразам думак і здольнасцю іх выказваць, прынамсі, у тых выпадках, калі навучанне пастаўлена правільна. Больш таго, навучанне дэмакратыі не выключае свабоднага вывучэння іншых дактрын або сістэм кіравання, у тым ліку і таталітарных, і нарэшце, прыхільнікі дэмакратыі не ўтойваюць, што ў дэмакратыі ёсць свае заганы. У дэмакратычных грамадствах, у адрозненне ад іншых формаў кіравання, шчыра прызнаюць наяўныя недахопы і шчыра гавораць пра іх. Калі побач з вывучэннем інстытутаў, каштоўнасцей, перспектыў і праблем, якія характарызуюць дэмакратыю ў гістарычным плане, вучням расказваюць аб альтэрнатыўных формах кіравання, можна з упэўненасцю меркаваць, што яны палічаць за лепшае і палюбяць менавіта дэмакратычную палітычную сістэму. Ніхто не гаворыць, што яны палічаць яе ідэальнай. Аднак яны зразумеюць, што гэта лепшая сістэма кіравання з усіх, якія ўжо выпрабаваны на практыцы — і, магчыма, самая складаная з пункту гледжання яе рэальнага функцыянавання.

Вопыт краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, Прыбалтыкі, Расіі гаворыць аб тым, што вучні ў краінах маладой дэмакратыі, якія раней наведвалі школы, дзе дэмакратычным ідэям не было месца, могуць зразумець і ацаніць дэмакратыю толькі пры ўмове, што адукацыйная сістэма будзе хутка і глыбока перабудавана. Аднак там, дзе настаўнікі і дырэктары школ самі ніколі не жылі пры дэмакратыі, і, больш таго, ніколі не мелі нават дазволу вывучаць яе, там, дзе падручнікі і іншыя навучальныя матэрыялы былі накіраваны на падаўленне і дыскрэдытацыю дэмакратычных ідэй, у такіх умовах ажыццяўленне падобнай перабудовы — задача надзвычай складаная.

Таму відавочна, што тых, хто хоча стварыць сістэму адукацыі, якая б навучала дэмакратыі, наперадзе чакае найскладанейшая работа. На шчасце, не трэба пачынаць усё з нуля. Навучанне дэмакратыі паспяхова ажыццяўляецца ў многіх краінах. І мы прапануем вашай увазе некаторыя прыклады, якія з поспехам можна адаптаваць і выкарыстаць прымяняльна да спецыфічных сацыяльна-эканамічных і палітыка-культурных умоў Беларусі.

Любая спроба вучыць дэмакратыі павінна пачынацца з дакладнага і выразнага ўяўлення аб тым, што менавіта трэба выкладаць і вывучаць. Значыць, пры распрацоўцы адукацыйных праграм і навучальна-педагагічных методык, неабходна мець добрае веданне і разуменне дэмакратыі. Хоць само слова "дэмакратыя" сёння ў вялікай модзе, на жаль, яно часта няправільна разумеецца і няправільна ўжываецца. Найноўшая гісторыя прадаставіла ў наша распараджэнне мноства прыкладаў, калі таталітарныя і мілітарыстычныя рэжымы называлі сябе "дэмакратычнымі рэспублікамі". Пры гэтым іх канстытуцыі, якія на словах заяўляюць аб правах і свабодах, у рэальнасці былі фікцыяй. Акрамя таго, у краінах, якія пазбаўляюцца таталітарызму, дзе прыгнечанне было нормай жыцця на працягу дзесяцігоддзяў, існуе тэндэнцыя спрошчанага падыходу да дэмакратыі, разглядаючы яе толькі як гарантыю асабістай свабоды і нават ліцэнзію на яе, а не як складанае ўзаемадзеянне ідэй, інстытутаў, абавязкаў, правоў і ўчынкаў. Такім чынам, пачынаючы навучанне дэмакратыі, трэба дакладна ўяўляць, што дэмакратыя — гэта сістэма самакіравання, пры якой усе грамадзяне роўныя, а палітычныя рашэнні прымаюцца большасцю, аднак, заўсёды з улікам і абаронай правоў меншасці. У сваіх найбольш "чыстых" формах дэмакратыя прадастаўляе грамадзянам магчымасць прамога ўдзелу ў працэсе прыняцця рашэнняў. Гэта называецца прамой дэмакратыяй. Аднак, улічваючы памеры і складанасць сучасных грамадстваў, звычайна для грамадзян больш практычна выбіраць сваіх прадстаўнікоў, якія ажыццяўляюць кіраванне і прымаюць рашэнні ад іх імя. Аснова прадстаўнічай дэмакратыі — гэта рэгулярныя, свабодныя, сумленныя і спаборныя выбары, у выніку якіх выбіраецца падсправаздачны народу ўрад. Другі важны пастулат заключаецца ў тым, што ва ўмовах дэмакратыі ўрад існуе для таго, каб служыць народу, а не наадварот. Паколькі дэмакратычны ўрад атрымлівае сваю ўладу ад тых, кім ён кіруе, народ, страціўшы давер да ўрада, мае магчымасць змяніць яго мірным шляхам. Пры гэтым можна не апасацца атрымаць кулю ў лоб.

Хоць выбарчая сістэма, пры якой пераможцам лічыцца той кандыдат, які атрымаў большасць галасоў, гэта значыць мажарытарная сістэма, з'яўляецца асноўным прынцыпам дэмакратыі, просты мажарытарызм мае пэўныя недахопы. Таму ён звычайна функцыяніруе ў рамках канстытуцыі, якая абмяжоўвае ўладу ўрада і забяспечвае індывідуальныя правы асобы і правы меншасцей. У такіх канстытуцыйных дэмакратычных сістэмах усе грамадзяне ўжо валодаюць асноўнымі правамі, а правы меншасцей не залежаць ад добрай волі большасці.

Такія правы гарантуюцца пры дапамозе механізмаў, якія надзвычай цяжка змяніць. У Злучаных Штатах, напрыклад, у якасці неад'емных правоў усіх грамадзян канстытуцыя абвяшчае свабоду слова, веравызнання, сходаў, а таксама права на справядлівы суд. Федэральны ўрад і ўрады штатаў не могуць прымаць законы, якія ігнаруюць або падрываюць гэтыя правы.

Наступнай ключавой характарыстыкай дэмакратычнага кіравання, аб якой абавязкова павінен памятаць выкладчык, з'яўляецца сістэма "стрымак і процівагаў", якая не дапускае, каб у якога-небудзь органа кіравання, палітычнага інстытута, групы людзей або асобнай персоны аказалася празмерная ўлада. Важным, у прыватнасці, з'яўляецца наяўнасць незалежнай судовай сістэмы, якая не дазваляе выканаўчай і заканадаўчай уладзе выходзіць за рамкі сваіх паўнамоцтваў. У Злучаных Штатах выканаўчая ўлада і Кангрэс функцыяніруюць асобна, кантралюючы і ўраўнаважваючы адзін аднаго. Такім чынам, ні чалавек, ні асобная галіна ўлады, не можа сканцэнтраваць у сваіх руках столькі ўлады, каб уяўляць пагрозу правам грамадзян або парушаць гэтыя правы.

Аднак, калі дэмакратыя можа не спрацаваць з-за празмернай улады ў руках урада, роўным чынам яна можа даць збой, калі ва ўрада недастаткова ўлады. Дэмакратычны працэс — гэта формула для забеспячэння справядлівасці, але не замацавання бяздзейнасці або анархіі. Такім чынам, для забеспячэння поспеху дэмакратычнага кіравання неабходна кіраўніцтва, а грамадзяне павінны прытрымлівацца рашэнняў, прынятых абранымі імі кіраўнікамі, і выканаць законы грамадства (пры ўмове, што гэтыя законы не парушаюць асноўных правоў).

**Сяргей ШАЎРУК,**
кандыдат гістарычных навук, дацэнт,
дырэктар Цэнтра параўнальнай
адукацыі Нацыянальнага Інстытута
адукацыі.

(Заканчэнне будзе)

# ГІСТАРЫЧНЫ ШЛЯХ БЕЛАРУСІ

## ВЫНІКІ САЦЫЯЛАГІЧНАГА ДАСЛЕДАВАННЯ Ў ГРОДЗЕНСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

За апошнія гады ўзрасла цікавасць жыхароў Беларусі да гісторыі сваёй краіны, да ўжо вядомых гістарычных фактаў, і, асабліва, да яшчэ невядомых фактаў і падзей. Гэта і зразумела, бо перад грамадзянамі Рэспублікі Беларусь стаіць сапраўды грандыёзная задача: пабудаваць дэмакратычную, незалежную, суверэнную дзяржаву.

Цікавасць да сваёй гісторыі выклікана таксама крызісам як гістарычнай, так і нацыянальнай самасвядомасці. А што гэта так, сведчаць вынікі даследавання, праведзенага намі ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце.

Большасць апытаных пятага курса (86,7%) лічыць, што добра ведае гісторыю Беларусі. Што датычыцца першага курса, то 56,8% сцвярджаюць, што ведаюць яе добра, а 39,2% — што слаба. Большасць выкладчыкаў (75%, 6 чалавек) таксама адказалі, што добра ведаюць гісторыю Беларусі.

Добрыя веды гісторыі Беларусі нельга ўявіць без добрых ведаў гісторыі свайго краю, рэгіёна, вобласці. Таму студэнты-гісторыкі Гродзенскага універсітэта павінны добра ведаць гісторыю Гродзенскай губерні. У сваю чаргу, немагчыма вывучаць і добра ведаць гісторыю Гродзенскай вобласці без ведаў гісторыі Літвы і Польшчы. Большасць студэнтаў першага курса адказалі, што слаба ведаюць як гісторыю Літвы, так і гісторыю Польшчы. Большасць рэспандэнтаў з пятага курса сцвярджаюць, што добра ведаюць гісторыю Польшчы і зусім не ведаюць гісторыю Літвы, або ведаюць яе слаба. Пераважная колькасць выкладчыкаў адказала так, як і студэнты пятага курса: добра ведаюць гісторыю Польшчы 87,5% і слаба (50%) — гісторыю Літвы, а 50% выкладчыкаў лічаць, што добра ведаюць гісторыю Літвы.

Гісторыю Расіі пераважная большасць студэнтаў (90,2% — першы курс, 91,1% — пяты курс) і выкладчыкаў (87,5%) ведаюць добра.

Такім чынам, згодна з адказамі рэспандэнтаў, гісторыю Расіі студэнты-гісторыкі ведаюць лепей, чым гісторыю Вялікага Княства Літоўскага.

Здавалася б, студэнты-гісторыкі павінны сёння цікавіцца тым, пра што менш ведаюць. Гэта значыць, гісторыяй суседзяў: Літвы і Польшчы, а ў старажытнасці — гісторыяй адзінага народа Вялікага Княства Літоўскага — ліцвінаў. Але ж адказы іншыя. Толькі большасць студэнтаў першага курса аднолькава цікавіцца як гісторыяй Расіі, так і гісторыяй Беларусі. Студэнты пятага курса ў асноўным цікавяцца гісторыяй Расіі (46,7%), Англіі (40%), Беларусі (37,8%), Польшчы (31,1%). Выкладчыкі таксама цікавяцца гісторыяй Расіі (37,5% — 3 чал.), Германіі (37,5%), ЗША (37,5%). Цікавасці да гісторыі Літвы ў адказах няма.

Большасць рэспандэнтаў як першага, так і пятага курсаў лічыць, што і Люблінская і Крэўская вуніі мелі станоўчы ўплыў на развіццё гісторыі Беларусі. А гэта — дадатковае сведчанне таго, як многа агульнага ў гісторыі сёняшніх трох незалежных краін: Беларусі, Літвы, Польшчы.

Гісторыя Беларусі ў адлюстраванні савецкіх гісторыкаў запоўнена міфамі і легендамі. Адзін з такіх міфаў — міф пра прымусовае акаталічванне беларускага народа пасля Люблінскай і Берасцейскай уній. Менавіта таму, на нашу думку, многія рэспандэнты далі негатыўную ацэнку каталіцызму, галоўнаму веравызнанню ў Вялікім Княстве Літоўскім. 47% першакурснікаў лічаць, што каталіцызм аказаў добры ўплыў на развіццё гісторыі Беларусі, 35,3% — што благі. Адказы пятага курса: 57,8% — добры ўплыў, 24,4% — благі. Большасць жа выкладчыкаў (62,5%) далі негатыўную ацэнку каталіцызму. Для Гродзенскай вобласці, дзе жыве многа каталікоў, такія вынікі даследавання некалькі нечаканыя. Хаця ў апытанні прынялі ўдзел усяго 15,7% каталікоў першага курса і 24,4% — пятага. Большасць апытаных (66,7% — першы курс, 68,9% — пяты курс) вызначылі сваё веравызнанне як "праваслаўны" і вельмі станоўча ацанілі ролю праваслаўя ў гісторыі Беларусі (80,4% — першы курс), 80% — пяты курс, 87,5% — выкладчыкі).

Аднак, як сведчаць навуковыя факты, каталіцызм і уніяцтва былі галоўнымі рэлігійнымі плынямі ў час існавання Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Што прыцягвала грамадзян старажытнай Беларусі ў гэтых веравызнаннях? У каталіцкай веры, як намі ўжо адзначалася, простаму чалавеку вельмі падабалася тое, што каталіцкія свяшчэннікі не мелі жонкі, сям'і, а, значыцца, усяцэла любілі Бога, служылі толькі яму, былі больш сціплыя ў асабістым жыцці. Да уніяцтва людзей цягнула яго ўвага да мясцовых нацыянальна-культурных традыцый, шырокае выкарыстанне ў рэлігійных казаннях беларускай мовы. Калі ў 1839 годзе быў падпісаны акт аб "уз'яднанні" беларускай уніяцкай царквы з расейскай праваслаўнай, значная частка уніятаў, незадаволеная гэтым, добраахвотна далучылася да каталіцкай рэлігіі.

Большасць рэспандэнтаў на пытанне анкеты аб станоўчай ролі рыма-каталіцкай і грэка-каталіцкай (уніяцкай) цэркваў у развіцці навукі і культуры на тэрыторыі Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны ў XVII стагоддзі не змагла даць ацэнку або ацаніла адмоўна. Таму, на нашу думку, сёння вельмі патрэбны справядлівая інфармацыя, глыбокія даследаванні аб ролі гэтых дзвюх рэлігійных плыняў у развіцці беларускай гісторыі і культуры.

Другім шырока распаўсюджаным міфам з'яўляецца міф аб тым, што гісторыя Беларусі пачынаецца з гісторыі Кіеўскай Русі. А як лічаць рэспандэнты?

Большасць выкладчыкаў лічыць, што гэта не так (62,5% — 5 чал.). У студэнтаў адказы размеркаваліся наступным чынам: першы курс: 54,9% — так, 41,2% — не; пяты курс: 55,6% — так, 40% — не.

Большасць апытаных пятага курса (68,9%) лічыць, што падзелы Рэчы Паспалітай мелі негатыўны ўплыў на развіццё гісторыі Беларусі і ў той жа час 71,1% рэспандэнтаў гэтага ж курса сцвярджаюць, што далучэнне зямель Беларусі да царскай Расіі прыспешыла яе эканамічнае і культурнае развіццё.

Адказы першага курса размеркаваліся так: 45,1% лічыць, што падзелы Рэчы Паспалітай мелі добры ўплыў на развіццё гісторыі Беларусі, а 43,1% — што благі. 72,5% сцвярджаюць, што далучэнне Беларусі да царскай Расіі прыспешыла яе развіццё, 21,6% — што затрымала.

Большасць выкладчыкаў лічыць, што падзелы Рэчы Паспалітай мелі благі ўплыў, і што далучэнне да Расіі затрымала эканамічнае і культурнае развіццё Беларусі.

Што тычыцца адказаў на пытанне аб далучэнні зямель Беларусі да СССР, то 50% выкладчыкаў лічыць, што гэтая падзея затрымала эканамічнае і культурнае развіццё Беларусі, 50% — што прыспешыла. 45,1% рэспандэнтаў першага курса лічыць, што прыспешыла, 41,2% — што затрымала. Большасць апытаных пятага курса сцвярджаюць (51,1%), што гэтае далучэнне прыспешыла эканамічнае і культурнае развіццё Беларусі.

Такім чынам, большасць рэспандэнтаў адказалі, што падзелы Рэчы Паспалітай мелі негатыўны ўплыў на развіццё гісторыі Беларусі і ў той жа час сцвярджаюць, што далучэнне зямель Беларусі да царскай Расіі, а потым да СССР прыспешыла яе эканамічнае і культурнае развіццё. І таму заканамерныя адказы большасці, што распад СССР мае негатыўны ўплыў на развіццё гісторыі Беларусі (41,2% — першы курс, 51,1% — пяты курс, 62,5% — выкладчыкі).

Пераважная большасць як студэнтаў, так і выкладчыкаў лічыць, што ў культуры Беларусі ёсць многа агульнага з заходнееўрапейскай культурай. І гэта так. Беларусь — цэнтральна-еўрапейская дзяржава, многія яе знакамітыя асобы вучыліся ў заходнееўрапейскіх універсітэтах (Ф. Скарына, М. Гусоўскі, Л. Сапега). Але ж не зусім зразумела, чаму большасць апытаных таксама лічыць, што ў культуры Беларусі ёсць многа агульнага і з візантыйска-ўсходняй культурай.

Гістарычную самасвядомасць беларускага народа нельга ўявіць без ведаў сваіх нацыянальных герояў, якімі ганарыцца кожны нацыянальна свядомы беларус. Такімі асобамі для большасці рэспандэнтаў з'яўляюцца: Ф. Скарына (76,5% — першы курс, 62,2% — пяты курс; 75% (6 чал.) — выкладчыкі); Е. Полацкая (39,2% — першы курс, 51,1% — пяты курс, 50% (4 чал.) — выкладчыкі); Вітаўт (39,2% — першы курс, 31,1% — пяты курс, 50% (4 чал.) — выкладчыкі); К. Каліноўскі (33,3% — першы курс, 24,4% — пяты курс, 75% (5 чал.) — выкладчыкі). Вельмі нечаканымі з'явіліся адказы 43,1% першакурснікаў і 35,6% пяцікурснікаў, якія лічаць знакамітай асобай Пятра І. Тлумачэнне, на наш погляд, гэтаму наступнае: па-першае, многія, мабыць, з гродзенскіх студэнтаў лічаць сваёй краінай былы СССР, а не Беларусь; па-другое, мабыць, у гэтых адказах назіраецца якаясьці сувязь з перамогай Пятра І у Паўночнай вайне. Перамогшы ў гэтай вайне, Пётр І пазбавіў палякаў, а гэта значыць, і жыхароў Гродзенскай вобласці, ад пагроз і пастаянных набегаў шведаў.

Многія рэспандэнты называюць знакамітай асобай у гісторыі Беларусі П. Машэрава (17,6% — першы курс, 20% — пяты курс).

САМЫМІ найвялікшымі палітычнымі, культурнымі і грамадскімі дасягненнямі сваёй гісторыі большасць апытаных лічыць наступныя: кнігадрукаванне; утварэнне БНР (1918 г.); распаўсюджанне хрысціянства на Беларусі; перамога ў Вялікай Айчыннай вайне; узнікненне Вялікага Княства Літоўскага і яго Статутаў.

З падзей ці ідэалогій, якія прычынілі найбольш шкоды Беларусі, часцей за ўсё называліся такія: другая сусветная вайна — фашызм; Кастрычніцкая рэвалюцыя — сацыялізм; сталінізм; далучэнне да СССР; русіфікацыя.

Заканамерна, зыходзячы з вышэйназваных падзей, большасць рэспандэнтаў назвала і асоб, якія, на іх погляд, прычынілі найбольш шкоды Беларусі: Сталіна, Леніна, Гітлера, Кацярыну II, Гарбачова, Брэжнева, Берыю. А выкладчыкі (3 чал.) назвалі нават Кебіча В. Ф.

Незразумела, чаму большасць апытаных лічаць, што распад СССР мае благі ўплыў на развіццё гісторыі Беларусі і ў той жа час сцвярджае, што Гарбачоў мае ў гісторыі станоўчую ролю (35,3% — першы курс, 44,4% — пяты курс).

Даючы ацэнку сучасным падзеям, большасць рэспандэнтаў, як выкладчыкаў, так і студэнтаў прызнаюць станоўчую ролю польскай "Салідарнасці" ў гісторыі Беларусі (70,6% — першы курс, 42,2% — пяты курс, 50% (4 чал.) — выкладчыкі). Дзейнасць літоўскага "Саюдзіса" 19,6% рэспандэнтаў першага курса і 17,8% рэспандэнтаў пятага курса ацанілі станоўча. Большасць астатніх або не змагла ацаніць, або не бачыць ніякага ўплыву гэтага аб'яднання на гісторыю Беларусі.

Пераважная большасць рэспандэнтаў станоўча ацаніла дзейнасць Беларускага Народнага Фронту, які першым загаварыў аб нацыянальным адраджэнні, аб гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. І гэта вельмі добры знак. Гэта знак таго, што Рэспубліка Беларусь верне страчаную спадчыну, што яна жыла, жыве і будзе жыць!

Такім чынам, падводзячы вынікі сацыялагічнага даследавання сярод студэнтаў і выкладчыкаў гістарычных факультэтаў трох дзяржаўных універсітэтаў — Беларускага, Гомельскага і Гродзенскага, — можна зрабіць наступныя высновы:

1. Непаслядоўнасць і супярэчлівасць у адказах рэспандэнтаў звязана, на нашу думку, у першую чаргу з той неразбярыхай і хаосам, якія пануюць сёння ў беларускай гістарычнай навуцы. Нават вядомыя вучоныя-гісторыкі сёння не могуць даць правільнае тлумачэнне многім гістарычным падзеям. Таму галоўнай задачай беларускіх гісторыкаў з'яўляецца стварэнне нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі.

2. Большасць рэспандэнтаў лічыць, што добра ведае гісторыю Беларусі. Так, яны добра ведаюць тую гісторыю Беларусі, якую ім выкладалі, менавіта гісторыю савецка-расейскай арыентацыі. Сапраўдная гісторыя Беларусі — гэта гісторыя, змешчаная ў падручніках В. Ластоўскага, І. Ігнатоўскага, М. Ермаловіча. Нельга ўявіць сабе добрых ведаў па гісторыі Беларусі без такіх жа ведаў гісторыі Літвы і Польшчы. Сёння як мага хутчэй трэба задаволіць патрэбу як сярэдніх, так і вышэйшых навучальных установ у сапраўдных падручніках па гісторыі Беларусі, надрукаваных на беларускай мове.

3. Гістарычная самасвядомасць студэнтаў першых курсаў вышэй, чым у пяцікурснікаў. Гэта і зразумела, паколькі сённяшнія першакурснікі — гэта ўчарашнія школьнікі, якія, пачынаючы дзесьці з 1989—1990 гг., ужо бачылі і вывучалі гісторыю Беларусі па новых падручніках. Студэнты-пяцікурснікі ўжо прыйшлі ў класы. Можна сабе ўявіць, якую гісторыю Беларусі яны будуць выкладаць. Таму першачарговай задачай сёння з'яўляецца выхаванне і падрыхтоўка нацыянальных педагогаў-гісторыкаў, носьбітаў сапраўдных ведаў па гісторыі Беларусі.

4. На характар і змест адказаў, на наш погляд, не ў апошнюю чаргу ўздзейнічалі наступныя абставіны: месца правядзення даследавання, пачуццё патрыятызму, выкладчыцкі састаў. Так, адказы гомельскіх рэспандэнтаў носяць заметную расейскую арыентацыю, а адказы гродзенскіх — слаба прыкметную польскую. Пачуццё патрыятызму ў апытаных праяўлялася ў тым, якую краіну яны лічаць сваёй: ці Беларусь, ці Расію, ці былы СССР.

Памылковыя адказы студэнтаў часцей за ўсё супадалі з памылковымі адказамі выкладчыкаў.

5. Самымі знакамітымі асобамі ў гісторыі Беларусі большасць рэспандэнтаў назвалі Ф. Скарыну, Е. Полацкую, К. Каліноўскага, Вітаўта. Аднак, у некаторай ступені і на гэтыя адказы ўздзейнічала месца правядзення апытання. Так, Радзівілаў самымі знакамітымі назвалі толькі студэнты-мінчане. Мабыць таму, што Нясвіж — радавое памесце Радзівілаў — побач з Мінскам.

6. Пры адказах на пытанне аб падзелах ці ідэалогіях, якія прычынілі найбольш шкоды Беларусі, у пэўнай меры таксама аказала ўздзеянне месца правядзення апытання. Так, такую падзею, як аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, назвалі толькі гамяльчане, якія найбольш пацярпелі ад гэтай бяды.

7. Большасць рэспандэнтаў (65,3% студэнтаў і 78,6% выкладчыкаў лічаць дэмакратычную шматпартыйную сістэму з моцным парламентам самай лепшай формай дзяржаўнасці і ўлады для Беларусі.

**Крысціна ЛАПІЧ.**

## УДАКЛАДНЯЕМ

# "У БЯЗВАЖКІМ СТАНЕ"

Так называецца артыкул настаўніка матэматыкі школы №3 Глыбокага І.С.Храпавіцкага, змешчаны ў "НГ" за 28 верасня 1994 года. На жаль, па тэхнічных прычынах у артыкуле дапушчаны памылкі друку. У першай калонцы ў перадапошнім абзацы трэба чытаць: $a^2 + b^2 = c^2$, у другім абзацы другой калонкі: рашыць раўненне $\frac{1}{x^2} - \frac{1}{y^2} + \frac{1}{z^2}$(*) у цэлых ліках x, y, z. У другім радку трэцяга абзаца знізу чытайце так: $m^2 + n^2 = k^2$.

## ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Каму мулка ў атмасферы беларускасці

6 верасня, калі рэктар Віцебскага педагагічнага інстытута яшчэ знаходзіўся ў адпачынку, у інстытуцкім вестыбюлі на стэндзе з'явіўся аркуш паперы, на якім камп'ютэрным спосабам і па-руску было надрукавана "Обращение инициативной группы" наступнага зместу. "Мы, преподаватели Витебского педагогического института, поддерживая намерения Президента Республики начать оздоровление социальной обстановки, требуем... и предлагаем: 1. Считать одним из главных критериев в оценке работы администрации и профессорско-преподавательского состава их нравственность..." Шэраг далейшых пунктаў датычыў звужэння паўнамоцтваў адміністрацыі, асабліва рэктара.

Што ж, нічога крамольнага ў гэтым няма. Апошнім часам Міністэрства адукацыі зацвердзіла Прыкладнае палажэнне аб вышэйшай школе. А інстытут распрацоўвае свой Статут. Вось група грамадзян і вырашыла дапамагчы. Статут ВНУ, вядома ж, не павінен супярэчыць заканадаўству краіны.

Але якраз пункт 12 згаданага "Обращения...", які патрабуе "Вести преподование и издание учебно-методической литературы на тех языках, которые обеспечивали бы наивысшее качество образования. Язык преподавания выбирается студентами и преподавателями", супярэчыць артыкулу 25 Закону аб Мовах і Закону аб адукацыі ў Беларусі.

На практыцы гэта рэалізуецца так: я, выкладчык сталага веку і сярэдняга ўзроўню, ніякай іншай, акрамя рускай, мовы не ведаю і ведаць не хачу, бо і так з навуковай ступенню, прыходжу да студэнтаў і абвяшчаю: "Этот курс читаю я. Дисциплина тяжёлая, требует величайшего напряжения. В конце курса — экзамен, который мне обычно сдают не с первого раза. На каком языке будем работать?" Можна не баяцца: ніхто не скажа "на беларускай". А таму як я паведаміў гэта па-руску і ўсім відаць, што гэтае пытанне для сябе я ўжо вырашыў, то каму захочацца мець лішні клопат?

Дарэчы, завадатары "инициативной группы" — нашы даўнія знаёмыя. Сярод іх прафесары (кандыдаты навук) М. П. Багдановіч і Е. Е. Сямёнаў, дацэнт А. А. Макееў, старшы выкладчык І. Н. Патапаў. Менавіта гэтыя таварышы носяцца з ідэяй рускамоўнага універсітэта за дзяржаўны кошт, "чтобы наши выпускники были конкурентноспособны на российском рынке труда" (гл. "НГ" за 16.02.94). Яны ж хадзілі па факультэтах ды кафедрах, збіраючы подпісы за наданне рускай мове статуса другой дзяржаўнай на Беларусі. Яны ж падпісалі і ліст да прэзідэнта Расіі, дзе нас, беларусаў, называлі "имперским народом".

Віцебскі педагагічны паступова робіцца сапраўды нацыянальнай установай. На факультэтах і кафедрах інфармацыйныя матэрыялы — беларускамоўныя. На другім паверсе, дзе прыёмныя, навуковая і вучэбная часткі — дасканала выкананыя Герб і Сцяг Беларусі; побач — карта краіны. Адраджэнне ў ВНУ ажыццяўляецца шмат у чым дзякуючы яе рэктару Віктару Ніканавічу Вінаградаву. Гэта паводле яго загада з 1 студзеня 1993 года ратапрынт прымае да друку толькі беларускамоўныя метадычныя распрацоўкі. І выкладчыкі ставяцца да гэтага з разуменнем. Імі падрыхтавана багата дапаможнікаў па педагогіцы (М. С. Рыўкін, Ф. І. Шкарэнда), псіхалогіі (Г. В. Сірата), фізіцы (Ф. П. Коршыкаў, М. П. Шміт), матэматыцы (К. А. Ананчанка, З. К. Ляўчук, У. В. Усціменка, І. Э. Драздоўская), хіміі (В. С. Аранская, У. К. Слабін, С. М. Каладзяжная), біялогіі (Т. М. Царэнка, В. П. Мартыненка, Я. Л. Фядотаў), гісторыі (В. У. Акуневіч, С. А. Маторaў), выяўленчым мастацтве (Р. С. Фядзькоў, Л. М. Каваленка), медпадрыхтоўцы (А. Ф. Хлопцаў, І. Д. Барысенка, Т. П. Карнавушанка). А вось жа згаданымі вышэй таварышамі за гэты час не падрыхтавана ніводнай метадычкі ні па астраноміі, ні па тэарэтычнай фізіцы, не кажучы ўжо пра спецкурсы. Але і без іх фактычна створана "крытычная маса" распрацовак, якія забяспечваюць беларускамоўнае выкладанне на асноўных курсах. Дарэчы, паводле адмысловага загада рэктара, навучанне з мінулага навучальнага года беларускамоўнае.

Такая пазіцыя рэктара не падабаецца тым, якія ўвесну гэтага года распаўсюджвалі ў сценах інстытута выраблены камп'ютэрным спосабам пасквіль пра Віктара Ніканавіча. Мне здаецца, "оздоровление социальной обстановки" адбудзецца толькі тады, калі выкладчыкі, якім мулка ў беларускай атмасферы, перастануць выпрабоўваць цярпенне кіраўніцтва інстытута. Яно ж не бясконцае.

Славамір АДАМОВІЧ.

## АДУКАЦЫЯ І РЫНАК

# ШТО ЗНАЧЫЦЬ ВУЧЫЦЬ ЭКАНОМІЦЫ

Эканамічная і дзелавая пасіўнасць большасці насельніцтва нашай краіны тлумачыцца ў значнай меры адсутнасцю элементарнай падрыхтоўкі. Таму ўвядзенне ў школах эканамічнага навучання не толькі важна, але і жыццёва неабходна.

Можна выдзеліць тры асноўныя накірункі, па якіх павінна ажыццяўляцца такое навучанне.

Па-першае, эканамічныя веды павінны прысутнічаць у школьнай адукацыі ў выглядзе спецыяльнага прадмета і выкладацца ў рамках спецыяльнай праграмы, як гэта робіцца ва ўсіх развітых краінах. Думаецца, што іх мэтазгодна ўвесці ў абавязковую праграму ўжо з пачатковых класаў.

Па-другое. Вучыць эканоміцы — значыць прывіваць адпаведнае мысленне, вучыць алгарытмам найбольш рацыянальных дзеянняў. Таму неабходна, каб эканамічныя веды прасяквалі розныя школьныя прадметы. Заўважым, што гэта іх даволі моцна "ачалавечыць", дапаможа накіраваць выкладанне на жыццёвыя, а не на абстрактныя, як зараз, патрэбы і інтарэсы. Скіраваны на задавальненне патрэб не "наогул навучэнца", не для "ўсіх часоў і народаў", а на кожнага канкрэтнага школьніка, якому трэба будзе жыць і працаваць ва ўмовах рыначнай эканомікі, гэта і будзе прагматычны гуманізм і прагматычная, а не абстрактная гуманізацыя школьнага навучання.

Тут трэба зазначыць, што развіццё эканамічнага мыслення мяркуе "псіхалагічнае" суправаджэнне. Прадпрымальнасць звязана з расшырэннем кантактаў, з уменнем працаваць з людзьмі. Такую сацыялізацыю вучня і павінны забяспечыць псіхолагаэтычныя заняткі з ім. Пакуль варта праводзіць іх хаця б у рамках факультатываў. Сюды ўвойдуць заняткі па псіхалогіі і этыцы агульнажыцця, асновах дзелавой этыкі, уменні ўзаемінаў з равеснікамі, настаўнікамі, бацькамі, вывучэнне этыкі сямейных адносін. Апошні цыкл заняткаў мусіць быць не самастойным, які раптоўна зваліўся на вучня ў якімсьці адным навучальным годзе, а вывучацца ў шэрагу іншых псіхолага-этычных дысцыплін, што дае падставы чакаць больш выніковага засваення.

Трэці накірунак звязаны з пазаўрочнай работай, перш за ўсё прадстаўленай рознымі формамі ўласна выхавання. Эканамічнае выхаванне — зусім новы, нетрадыцыйны, аднак вельмі цікавы яго від, паколькі прывівае карысныя прадпрымальніцкія навыкі. Яму могуць спрыяць эканамічныя школьныя музеі, творчыя лабараторыі, адпаведныя гульні і працоўныя таварыствы, профільныя клубы. Усе гэтыя формы, вельмі дзейсныя і выніковыя, дастаткова шырока выкарыстоўваюцца за мяжой.

Звернем асаблівую ўвагу на правядзенне эканамічнага навучання праз спецыяльныя гульні. Кожная гульня не толькі забяспечвае вучня новымі ведамі, але і прывівае адпаведныя навыкі ў нестандартнай форме. Таму яны лепш засвойваюцца і замацоўваюцца. У сярэдніх і старэйшых класах могуць праводзіцца такія эканамічныя гульні, як "Менеджэр", "Юны прадпрымальнік", "Банкір", "Бухгалтар", "Партрэт бізнесмена", "Эканамічны турнір", "Аўкцыён", "Біржа ў школе".

Уяўляецца, што цэнтрам пазаўрочнай выхаваўчай работы павінна стаць стварэнне так званай школьнай акцыянернай кампаніі. Яна заслугоўвае больш падрабязнай размовы. Справа ў тым, што гэта зусім новая з'ява для школ нашай Рэспублікі, але выключна ўдалы і найбольш актыўны спосаб эканамічнага навучання і выхавання дзяцей. Школьныя акцыянерныя кампаніі шырока распаўсюджаны за мяжой, перш за ўсё ў ЗША.

Акцыянерная кампанія мае перавагу перад малымі прадпрыемствамі і іншымі працоўнымі аб'яднаннямі ў школе. У аб'яднаннях непазбежна прысутнічае элемент утрымальніцтва па выніках працы дарослых, а вучні ў іх выступаюць, як правіла, звычайнымі наёмнымі работнікамі. Якімі б высакароднымі лозунгамі тут ні прыкрываліся, дзеці набываюць толькі навыкі больш ці менш выгаднага продажу сваёй рабочай сілы, што звычайна падносіцца як набыццё навыкаў у працы. У акцыянернай жа кампаніі няма нават скрытай эксплуатацыі працы дзяцей, паколькі школьнікі ў ёй адначасова з'яўляюцца ўласнікамі (акцыянерамі), гаспадарамі, менеджэрамі і рабочымі сваёй уласнай справы. Вучні аплочваюць арэнду за карыстанне памяшканнем (школьныя пакоі, класы), самі набываюць нескладанае абсталяванне і сыравіну, для чаго выбіраюць вытворчасць не рэсурсаёмкай, а працаёмкай прадукцыі (выраб эмблем на майках, пашыўка дробнага адзення для цацак, асаблівая маркіроўка школьных ручак, бірулек для ключоў і да т.п.). Дзеці самі гандлююць выраблёнай імі прадукцыяй, самі вядуць бухгалтарскія разлікі і менеджмент.

Такім чынам, акцыянерная кампанія ствараецца як эканамічна самастойная і юрыдычна незалежная арганізацыя. Гэта дазваляе дзецям набываць навыкі ў сацыяльным статусе не толькі наёмнага работніка, але і ўласніка, што ва ўмовах сучаснай рыначнай эканомікі вельмі неабходна. Яе арганізацыя ў школе вучыць дзяцей уменню выкарыстоўваць уласны творчы патэнцыял і разлічваць у любой справе перш за ўсё на самога сябе, свае ўласныя сілы і веды.

У заключэнне некалькі слоў аб так неабходнай для наладжвання ў школе данай работы метадычнай дапамозе. У цяперашні час ІПК і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі выдае серыю метадычных брашур у дапамогу настаўнікам і класным кіраўнікам пад агульнай назвай "Асновы эканамічных ведаў". Беларускі фонд дапамогі дзецям і падлеткам таксама падрыхтаваў вялікі метадычны матэрыял па арганізацыі эканамічнага навучання школьнікаў. Словам, школа, як і ўсё наша грамадства, уступае ў рынак.

Ніна КУНГУРАВА,
доктар сацыялагічных навук,
кандыдат эканамічных навук,
прафесар ІПК кіруючых
работнікаў і спецыялістаў
адукацыі.

— АЎТАРСКАЯ МЕТОДЫКА —

# ПРЫКЛАДНАЕ ТЭМАТЫЧНАЕ ПЛАНАВАННЕ ПА МАТЭМАТЫЦЫ — 8: АЛГЕБРА І ГЕАМЕТРЫЯ

Дацэнтам кафедры матэматыкі і методыкі выкладання матэматыкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Г.М.Салтанам распрацаваны дыдактычны комплекс (навучальныя дапаможнікі, матэматычныя курсы па выбары, дыдактычныя матэрыялы, метадычныя рэкамендацыі) па матэматыцы для 7—9 класаў базавай школы, які грунтуецца на псіхолагапедагагічнай тэорыі развіццёвага навучання.

Публікуем прыкладнае тэматычнае планаванне па курсе "Матэматыка — 8: алгебра і геаметрыя", пра змест якога расказвалася ў "Настаўніцкай газеце" за 24 кастрычніка 1992 года. Прыкладнае тэматычнае планаванне па курсе "Матэматыка — 7: алгебра і геаметрыя" надрукавана ў "Настаўніцкай газеце" за 4 верасня 1993 года.

### І ЧВЭРЦЬ — 4 г. У ТЫДЗЕНЬ, УСЯГО 35 г.

АЛГЕБРА (18 г.)

Паўтарэнне. Абагульненне паняцця ступені, ступень з цэлым паказчыкам. Функцыі "у роўна х у квадраце", "у роўна х у кубе" іх графікі 4 г.

УРАЎНЕННІ З ДЗВЮМА ПЕРАМЕННЫМІ. СІСТЭМЫ ЎРАЎНЕННЯЎ

Паняцце ўраўнення з дзвюма пераменнымі і яго рашэнне. Лінейнае ўраўненне з дзвюма пераменнымі і яго графік 3 г.

Сістэмы ўраўненняў. Паняцці сістэмы ўраўненняў і яе рашэння. Сістэмы двух лінейных ураўненняў з дзвюма пераменнымі і іх рашэнне спосабамі: падстаноўкі, алгебраічнага складання, графічна 5 г.

Рашэнне тэкставых задач з дапамогай сістэм лінейных ураўненняў 3 г.

Падагульненне тэм. 1 г.
Кантрольная работа №1. 1 г.
Урок вынікаў. 1 г.

ГЕАМЕТРЫЯ (17 г.)

Паўтарэнне. 3 г.

ПАДОБНЫЯ ТРОХВУГОЛЬНІКІ

Паняцце падобных трохвугольнікаў. Асноўныя азначэнні. Тры прызнакі падобнасці трохвугольнікаў 4 г.

Метад падобных трохвугольнікаў. 3 г.

Абагульненне паняцця падобных трохвугольнікаў. Паняцце аб падобных многавугольніках. Гаматэтыя як спосаб пабудовы падобных фігур. 4г.

Падагульненне тэм. 1 г.
Кантрольная работа №2. 1 г.
Урок вынікаў чвэрці. 1 г.

### ІІ ЧВЭРЦЬ — 4 г. У ТЫДЗЕНЬ, УСЯГО 30 г.

АЛГЕБРА (14 г.)

КВАДРАТНЫЯ КАРАНІ І САПРАЎДНЫЯ ЛІКІ

Паняцце квадратнага кораня. Арыфметычны квадратны корань 2 г.

Мноства сапраўдных лікаў. Паняцце ірацыянальнага ліку. Бесканечны дзесятковы перыядычны дроб і яго запіс у выглядзе звычайнага дробу, бесканечныя дзесятковыя неперыядычныя дробы 3 г.

Уласцівасці арыфметычнага квадратнага кораня. Пераўтварэнні выразаў з коранем. Функцыя "у роўна корань з х" і яе ўласцівасці. 6 г.

Падагульненне тэм. 1г.
Кантрольная работа №3. 1 г.
Урок вынікаў. 1 г.

ГЕАМЕТРЫЯ (16 г.)

СУАДНОСІНЫ ПАМІЖ СТАРАНАМІ І ВУГЛАМІ ТРОХВУГОЛЬНІКА

Суадносіны паміж старанамі і вугламі прамавугольнага трохвугольніка (сінус, косінус, тангенс і катангенс вострага вугла, асноўныя трыганаметрычныя тоеснасці). 5 г.

Пашырэнне паняццяў сінуса, косінуса, тангенса і катангенса вуглоў ад $0^0$ да $180^0$. Прасцейшыя формулы прывядзення і іншыя трыганаметрычныя тоеснасці і іх прымяненне. 4 г.

Падагульненне тэмы. 1 г.
Кантрольная работа №4. 1 г.

Суадносіны паміж старанамі і вугламі адвольнага трохвугольніка (вылічэнне плошчы трохвугольніка праз дзве стараны і вугал паміж імі, тэарэмы сінусаў і косінусаў). 4 г.

Урок вынікаў чвэрці. 1г.

### ІІІ ЧВЭРЦЬ — 5 г. У ТЫДЗЕНЬ, УСЯГО 53 г.

ГЕАМЕТРЫЯ (27 г.)

Суадносіны паміж старанамі і вугламі адвольнага трохвугольніка (працяг). Рашэнне трохвугольнікаў. 6 г.

Падагульненне тэмы. 1 г.
Кантрольная работа №5. 1г.

АЛГЕБРА (26 г.)

КВАДРАТНЫЯ УРАУНЕННІ. КВАДРАТЫЧНАЯ ФУНКЦЫЯ.

Паняцце квадратнага ўраўнення. Формула каранёў. Тэарэма Віета. Няпоўныя квадратныя ўраўненні. 8 г.

Раскладанне квадратнага трохчлена на множнікі. Ураўненні, якія зводзяцца да квадратных. Рашэнне тэкставых задач з дапамогай квадратных ураўненняў. Квадратычная функцыя і яе графік. 14 г.

Падагульненне тэм. 2 г.
Кантрольная работа №6. 1 г.
Урок вынікаў. 1 г.

ГЕАМЕТРЫЯ (працяг)

АКРУЖНАСЦЬ

Акружнасць і ўласцівасць яе хорд. Цэнтральныя і ўпісаныя вуглы і іх вымярэнне. 5 г.

Датычныя і сякучыя акружнасці. Апорныя задачы. 5 г.

Апісаныя і ўпісаныя трохвугольнікі і чатырохвугольнікі. 6 г.

Падагульненне тэм. 1 г.
Кантрольная работа №7. 1г.
Урок вынікаў чвэрці. 1г.

### IV ЧВЭРЦЬ — 5 г. У ТЫДЗЕНЬ, УСЯГО 30 г.

АЛГЕБРА

КВАДРАТНАЯ НЯРОУНАСЦЬ (10 г.)

Квадратная няроўнасць і яе рашэнне (з дапамогай графіка, сістэм няроўнасцей і метадам інтэрвалаў) 9 г.

Кантрольная работа №8. 1 г.

ГЕАМЕТРЫЯ

ВЕКТАРЫ НА ПЛОСКАСЦІ (10 г.)

Паняцце вектара. Абсалютная велічыня і напрамак вектара. Каардынаты вектара. Складанне і адыманне вектараў. Множанне вектара на лік. Скалярны здабытак вектараў. Выкарыстанне вектараў пры рашэнні задач. 8 г.

Падагульненне тэмы. 1 г.
Кантрольная работа №9. 1г.

ПАДАГУЛЬНЯЮЧАЕ ПАЎТАРЭННЕ АЛГЕБРЫ І ГЕАМЕТРЫІ 8 КЛАСА. 7 г.

Выніковая кантрольная работа №10. 2 г.

Урок вынікаў. 1 г.

**У снежні 1993 г. пад рубрыкай "Аўтарская методыка" былі апублікаваны метадычныя рэкамендацыі па тэматычным планаванні інтэграванага курса "Матэматыка" ў 7, 8 і 10 класах віцебскіх педагогаў Д.Я.Перліна і І.Я.Кацнельсона. Тлумачэнні даваў метадыст Юрый Шастакоў. Калі ёсць такая магчымасць, то надрукуйце рэкамендацыі гэтых настаўнікаў па выкладанні матэматыкі інтэгравана ў 9 і 11 класах.**

А.СВІСТУНОЎ, настаўнік матэматыкі. Светлагорск.

**Выконваем просьбу А.Свістунова і некаторых іншых нашых чытачоў.**

# ТЭМАТЫЧНАЕ ПЛАНАВАННЕ КУРСА МАТЭМАТЫКІ Ў 9 і 11 КЛАСАХ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ

## 9 КЛАС. 5 ГАДЗІН У ТЫДЗЕНЬ. УСЯГО 170 ГАДЗІН.

1. Паўтарэнне: квадратнае ўраўненне і яго рашэнне — 2. 2. Квадратычная функцыя (25) 2.1. Функцыя і яе ўласцівасці. — Функцыя, вобласці вызначэння і змянення — 2 — Уласцівасці функцыі (узрастанне, убыванне, цотнасць, няцотнасць, нулі). Кантрольная работа 15—20 мінут) — 3.

2.2. Квадратны трохчлен. — Квадратны трохчлен і яго корані — 2. — Раскладанне квадратнага трохчлена на множнікі — 3.

3. Вектары на плоскасці (15).

— Паралельны перанос (без доказу тэарэм аб існаванні і адзінасці паралельнага пераносу, пераўтварэнні адваротна паралельнаму пераносу) — 2. — Паняцце вектара. Абсалютная велічыня і напрамак вектара — 1. — Каардынаты вектара — 2. — Складанне вектараў — 3. — Множанне вектара на лік [калінеарнасць вектараў] — 2. [Раскладанне вектара на восях]. — Скалярны здабытак вектараў — 3. — Рашэнне задач — 1. — Кантрольная работа — 1.

2.3. Квадратычная функцыя і яе графік.

[Рашэнне ўраўненняў з выкарыстаннем выдзялення квадрата двухчлена з квадратнага трохчлена].

- Функцыя $y = ax$, яе графік і ўласцівасці — 2. - графікі функцый $y = ax + n$ і $y = a(x - m)$ — 3. [Прасцейшыя пераўтварэнні графікаў функцый].

- Пабудова графіка квадратычнай функцыі — 3. - Кантрольная работа — 1. - Карэкцыя ведаў. - Рашэнне няроўнасцей другой ступені з адной пераменнай — 5. кантрольная работа — 1.

— [Метад інтэрвалаў].

4. Пераўтварэнне фігур на плоскасці (17)

4.1. Рух.

— Прыклады геаметрычных пераўтварэнняў — 1.

— Рух. Восевая, цэнтральная сіметрыя. Паварот — 3.

— Прыклады фігур, што маюць сіметрыю - 1.

— [Уласцівасці руху]. — Паняцце аб роўнасці фігур — 1. — Рашэнне задач (кантрольная работа — 20 мінут) — 2.

5. Ураўненні і сістэмы ўраўненняў (20). 5.1. Ураўненне з адной пераменнай. — Цэлае ўраўненне і яго ступень — 1. — Рашэнне ўраўненняў трэцяй і чацвертай ступені з дапамогай раскладання на множнікі і дапаможнай пераменнай. (Кантрольная работа — 20 мінут) — 4.

4.2. Падобнасць фігур. — Паняцце аб падобнасці фігур — 2. — Прызнакі падобнасці трохвугольнікаў - 3. — Рашэнне задач — 3. — Кантрольная работа — 1. — Карэкцыя ведаў.

5.2. Сістэмы ўраўненняў з дзвюма пераменнымі. — Ураўненне з дзвюма пераменнымі і яго графік — 1. — Ураўненне акружнасці — 1. — Графічны спосаб рашэння сістэм — 2. — Рашэнне сістэм, якія змяшчаюць адно ўраўненне першай, а другое — другой ступені — 3. — Прыклады рашэння сістэм двух ураўненняў другой ступені з дзвюма пераменнымі — 1. — Кантрольная работа — 1.

6. Многавугольнікі (17).

6.1. Многавугольнікі. — Ломаная — 1. — Выпуклыя многавугольнікі. Сума вуглоў выпуклых многавугольнікаў — 2. — Правільныя многавугольнікі. Упісаныя і апісаныя правільныя многавугольнікі — 2. — Правільны многавугольнік і яго ўласцівасці — 3. — Кантрольная работа — 1.

5.3. Рашэнне задач з дапамогай сістэм другой ступені — 5. — Кантрольная работа — 1.

6.2. Даўжыня акружнасці. Лік $\pi$ — 1. — Цэнтральны вугал і дуга акружнасці — 2. — Упісаны вугал і яго вымярэнне — 3. — Рашэнне задач — 1. — Кантрольная работа - 1. — Карэкцыя ведаў.

7. Прагрэсіі (12).

— Паслядоўнасць — 1. — Азначэнне арыфметычнай прагрэсіі. Формула n-нага члена арыфметычнай прагрэсіі — 2. — Формула сумы n- першых членаў арыфметычнай прагрэсіі — 2. — Азначэнне геаметрычнай прагрэсіі. Формула n-га члена геаметрычнай прагрэсіі — 2. — Формула сумы n першых членаў геаметрычнай прагрэсіі - 2. — Рашэнне задач — 2. — Кантрольная работа — 1. — Карэкцыя ведаў.

8. Плошчы фігур (12). — Паняцце плошчы. Плошча прамавугольніка — 1. — Плошчы трохвугольніка, паралелаграма, трапецыі — 4. — Плошчы падобных фігур — 1. (Кантрольная работа — 20 мінут).

9. Трыганаметрычныя выразы і іх пераўтварэнні (20)

— Радыянная мера вуглоў — 2. — Сінус, косінус, тангенс і катангенс адвольнага вугла — 2. — Асноўныя трыганаметрычныя тоеснасці — 2 — Прымяненне асноўных тоеснасцей у пераўтварэннях выразаў — 4. — Кантрольная работа — 1.

8. Плошча фігур (працяг).

— Плошчы правільных многавугольнікаў — 1. — Плошча круга і яго частак — 2. — Рашэнне задач — 2. — Кантрольная работа — 1.

9. Трыганаметрычныя выразы і іх пераўтварэнні (працяг).

— Формулы прывядзення для вуглоў віду $\frac{n}{2} \pm l$, $n \pm l$.- 2

— Тэарэма сінусаў і косінусаў (без узнаўлення доказу) — 2.

— Рашэнне задач — 4.

— Кантрольная работа — 1

— Карэкцыя ведаў.

10. Абагульняючае паўтарэнне 23/7 (лічнік — алгебра, назоўнік — геаметрыя).

Абагульняючае паўтарэнне настаўнік зможа спланаваць, калі выйдзе з друку "Зборнік экзаменацыйных матэрыялаў за курс матэматыкі базавай школы".

З ліку гадзін, адведзеных на абагульняючае паўтарэнне, неабходна выдзеліць дзве гадзіны на правядзенне выніковай кантрольнай работы экзаменацыйнага характару.

## 11 КЛАС 4 ГАДЗІНЫ Ў ТЫДЗЕНЬ, УСЯГО 136 ГАДЗІН.

1. Паўтарэнне тэмы "Вытворная і яе прымяненне" — 2. 2. Першавобразная і інтэграл (13). 2.1. Першавобразная.

— Азначэнне першавобразнай. Асноўная ўласцівасць першавобразных — 3.

— Тры правілы знаходжання першавобразных (кантрольная работа — 15 мінут) — 2.

3. Многаграннікі (16). — Двухгранныя вуглы. Лінейны вугал двухграннага вугла — 1. — Многаграннік. Прызма. Паверхня прызмы. Пабудова плоскіх сячэнняў — 4. — Паралелепіпед (кантрольная работа — 20 мін.) — 3.

2.2. Інтэграл. — Плошча крывалінейнай трапецыі. Інтэграл. [Набліжанае вылічэнне інтэграла] — 2. — Формула Ньютана-Лейбніца. Прымяненне інтэграла да рашэння прасцейшых геаметрычных і практычных задач — 4. — Абагульняючы ўрок па тэме 2 — 1. — Кантрольная работа — 1.

3. Многаграннікі (працяг).

— Піраміда. Рашэнне задач — 4. [Правільныя многаграннікі]. — Рашэнне задач па тэме — 3. — Кантрольная работа — 1. — Карэкцыя ведаў.

4. Паказальная, лагарыфмічная і ступенная функцыі (35).

4.1. Абагульненне паняцця ступені.

— Корань n-й ступені, яго ўласцівасці — 2. — Ступень з рацыянальным паказчыкам — 2. — Ірацыянальнае ўраўненне. Рашэнне ірацыянальных ураўненняў — 4. — Кантрольная работа - 1.

5. Целы вярчэння (12).

— [Паняцце аб целах вярчэння]. Цыліндр. Восевае сячэнне цыліндра. Сячэнне, паралельнае восі цыліндра і перпендыкулярнае яму — 2.

— Конус. Восевае сячэнне конуса; сячэнне, якое праходзіць праз вяршыню яго, і сячэнне, перпендыкулярнае да восі конуса — 3.

— Шар і сфера. Сячэнні шара. Датычная плоскасць да сферы — 4. — Рашэнне задач па тэме — 2. — Кантрольная работа — 1. — Карэкцыя ведаў.

4.2. Паказальная функцыя.

— Паказальная функцыя, яе ўласцівасці і графік — 2. — Рашэнне паказальных ураўненняў і няроўнасцей (кантрольная работа на 20 мін.) — 3.

6. Аб'ёмы цел (19).

— [Асноўныя дапушчэнні аб аб'ёмах]. Аб'ём прамавугольнага паралелепіпеда — 2. — Аб'ём нахіленага паралелепіпеда — 2. — Аб'ём прызмы (без узнаўлення доказу), (кантрольная работа — 20 мін.) — 3.

4.3. Лагарыфмічная функцыя.

— Паняцце аб адваротнай функцыі, яе ўласцівасцях (без доказу) — 2. — Лагарыфм ліку. Асноўныя ўласцівасці лагарыфмаў — 1. — Лагарыфмічная функцыя, яе ўласцівасці і графік — 3. — Рашэнне лагарыфмічных ураўненняў і няроўнасцей — 4. — Кантрольная работа — 1.

— Карэкцыя ведаў.

6. Аб'ёмы цел (працяг).

— Аб'ём піраміды (без узнаўлення доказу), рашэнне задач — 4. — Кантрольная работа — 1. — Аб'ём шара (без узнаўлення доказу) — 2. — Рашэнне задач па тэме — 1. — Кантрольная работа — 1. — Карэкцыя ведаў.

4.4. Вытворныя паказальнай і лагарыфмічнай функцый.

— Лік "е" і натуральны лагарыфм. Вытворная і першавобразная паказальнай функцыі — 3.

— Вытворная лагарыфмічнай функцыі — 2. —Ступенная функцыя і яе вытворная — 2. — Паняцце аб дыферэнцыяльным ураўненні. Дыферэнцыяльнае ўраўненне паказальнага росту (у азнакамляльным плане) — 2.

— Кантрольная работа — 1. — Карэкцыя ведаў.

7. Плошчы паверхняў цел (6).

— Паняцце плошчы паверхні. Плошча сферы — 2. — Бакавыя паверхні цыліндра і конуса — 3. — Кантрольная работа — 1. — Карэкцыя ведаў.

Абагульняючае паўтарэнне і рэзерв часу — 18/15 (лічнік — алгебра і пачаткі аналізу, назоўнік — геаметрыя).

1. Агульны агляд элементарных алгебраічных функцый, іх уласцівасцей і графікаў ($y = kx$, $y = \frac{k}{x}$, $y = kx + b$, $y = ax^2 + bx + c$, $y = x^3$, $y = \sqrt{x}$ ). Графічнае рашэнне ўраўненняў і іх сістэм — 3.

2. Паралельнасць і перпендыкулярнасць у прасторы. Планіметрыя: тэарэмы сінусаў і косінусаў, вынікі з іх; плошчы трохвугольнікаў, паралелаграмаў, трапецыі, дэльтоіда — 4.

3. Трыганаметрычныя функцыі, асноўныя формулы і суадносіны, рашэнне трыганаметрычных ураўненняў — 4.

4. Многаграннікі і іх уласцівасці. Планіметрыя: падобныя фігуры, прызнакі падобнасці трохвугольнікаў. Адносіны перыметраў, плошчаў падобных фігур — 3.

5. Вытворная і яе прымяненне. Даследаванне функцый, найбольшае і найменшае значэнне функцыі — 3.

6. Целы вярчэння і іх уласцівасці. Планіметрыя: уласцівасці адрэзкаў у крузе, сякучай і датычнай, праведзеных з аднаго пункта да акружнасці, упісаныя ў круг і апісаныя трохвугольнікі; калі ў чатырохвугольнік можна ўпісаць акружнасць, калі каля яго можна апісаць акружнасць — 3.

7. Першавобразная і інтэграл. Вылічэнне плошчаў фігур, абмежаваных зададзенымі лініямі — 3.

8. Аб'ёмы цел. Паверхні цел вярчэння. Планіметрыя: даўжыня акружнасці, плошча круга і яго частак, упісаныя вуглы і іх вымярэнне — 4.

9. Паказальная, лагарыфмічная функцыі, рашэнне паказальных, лагарыфмічных ураўненняў, няроўнасцей. Прыклады рашэння ірацыянальных ураўненняў — 4.

10. Кантрольная работа экзаменацыйнага характару — 2.

Заўвагі:

1. Час і форму правядзення карэкцыі ведаў настаўнік вырашае па свайму меркаванню.

2. Кожная тэма абагульняючага паўтарэння пачынаецца з агляднай лекцыі, у якой выдзяляецца галоўнае, высвятляюцца найбольш цяжкія пытанні, указваецца канкрэтна, які пункт, а ў ім абзац, колькі прыкладаў, разабраных практыкаванняў з падручніка трэба разгледзець, каб пазбегнуць перагрузкі. Указаць №№ прыкладаў, задач з варыянтаў "Зборніка экзаменацыйных матэрыялаў..." па данай тэме. На гэта траціць не больш як 20 мінут.

3. Астатні час, адведзены на тэму, выкарыстоўваць на рашэнне практыкаванняў і задач "Зборніка экзаменацыйных матэрыялаў..."

4. Па кожнай тэме мэтазгодна праводзіць улік ведаў з адзнакай у форме самастойнай работы да 15—10 мін.

Складальнікі

Дзмітрый ПЕРЛІН,
загадчык кабінета матэматыкі
Віцебскага АІУН,

Іосіф КАЦНЕЛЬСОН,
настаўнік матэматыкі.

Пры складанні тэматычнага планавання аўтары карысталіся падручнікамі, указанымі ў дзеючай праграме сярэдняй агульнаадукацыйнай школы.

